DISTRICTUS

# ПАВЕТ

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 9 (13) СНЕЖАНЬ 2002 г.

## ВЕСТКІ

Гістарычны герб Браслава "Божае Вока Наканавання" зноў стаў афіцыйным сімвалам Браслава. 10 кастрычніка сесія Браслаўскага райсавета прыняла на гэты конт адпаведнае рашэнне. Зацверджаны эталон герба і палажэнне аб яго ўжыванні. Нагадаем, што герб Браславу быў нададзены прывілеем Станіслава Аўгуста Панятоўскага ад 2 чэрвеня 1792 года. На сесіі таксама зацверджаны эталон сцяга, які быў распрацаваны паводле колеравай гамы герба. Сцяг уяўляе сабой белае палотнішча з сіняй паласой пасярэдзіне, у цэнтры якой змешчана адлюстраванне герба. Герб і сцяг Браслава адначасова з'яўляюцца і сімваламі ўсяго раёна.

❑ ❑ ❑

15 кастрычніка ў Музеі традыцыйнай культуры адбылося ўрачыстае адкрыццё традыцыйнай мастацкай выставы "Восеньскі салон". Удзельнічаюць сем самадзейных мастакоў, якія жывуць і працуюць на Браслаўшчыне. Прадстаўлены цудоўныя акварэлі Цеафана Баркоўскага (г.Браслаў), на якіх адлюстраваны пейзажы ваколіц Браслава, жывапісныя працы Яна Рыдзікі (в.Барадзінічы), Аліны Трукан (в.Дварышча), Міхаіла і Галіны Ставіцкіх (г.Браслаў). Упершыню ў восеньскім вернісажы ўдзельнічаюць дзве самадзейныя мастачкі, якія жывуць за межамі Браслаўшчыны, але паходзяць адсюль. Гэта Галіна Жалабоўская з латвійскага горада Даўгаўпілса і Ніна Падбяроўкіна з Вільнюса. Падчас адкрыцця выставы адбылася сустрэча з мастакамі, якія падзяліліся сваім роздумам аб творчасці, адказалі на пытанні гледачоў.

Калядная паштоўка з выявай алтарнага абраза Дрысвяцкага касцёла «Пакланенне вешчуноў». XVI ст.

СА СЬВЯТАМ БОЖАГА НАРАДЖЭНЬНЯ!

Мінуў яшчэ адзін год нашага жыцця. Для каго ён быў шчаслівы, а камусьці — не вельмі пашанцавала.

Аднак усе мы спадзяемся, што Новы год будзе лепшым. Няхай жа будзе так, няхай надзея і вера ў лепшую будучыню ніколі не пакідае нашы сэрцы.

Шчырыя віншаванні з Калядамі, Новым годам!

Вясёлых Святаў!

# ВЕСТКІ

У рэдакцыі газеты "Браслаўская звязда" адбылася сустрэча з паэтам Зянонам Бурым, які жыве і працуе ў Даўгаўпілсе. З.Буры нараджэнец вёскі Гаўрылаўцы на Браслаўшчыне. На старонках раёнкі ён калісьці апублікаваў свае першыя вершы. Зянон Буры працуе рэдактарам газеты "Лакаматыў" Даўгаўпілскага лакаматыварамонтнага завода. Вершы піша па-руску. З'яўляецца аўтарам зборнікаў "Агонь у акне" (1998 г.), "Я на зямлі" (2000 г.).



Вучаніца Карасінскай базавай школы Алена Пяткевіч стала дыпламанткай першага Міжнароднага конкурса на напісанне славянскай казкі. Яе казка "Стары і скала солі" уключана ў зборнік "Казкі вучнёўскіх мар", падрыхтаваны ў Варшаве.



У сярэдзіне лістапада споўнілася 60 гадоў з часу, як гітлераўцамі былі спалены жыхары невялікай вёскі Баравыя, што на поўдні Браслаўшчыны. Сціплы помнік адзначае месца трагедыі, але ён знаходзіцца ў занядбаным стане.



Свята-Петрапаўлаўская царква ў в.Замошша была спалена ў гады другой сусветнай вайны. Некалькі гадоў таму вернікі пачалі аднаўляць гэты храм. Асноўныя будаўнічыя працы завершаны, тут праводзяцца набажэнствы, аднак яшчэ шмат спраў па аднаўленню інтэр'ера, не хапае інвентара. Нядаўна прыхаджане Петрапаўлаўскай царквы з латвійскага горада Даўгаўпілса перадалі ў Замошскі храм набор для прычасця. Яшчэ раней невялікі звон для царквы перадаў жыхар Даўгаўпілса Мікола Паўловіч. М.Паўловіч – вядомы краязнаўца, актывіст беларускага таварыства ў Даўгаўпілсе, сябра Браслаўскага краязнаўчага таварыства.



30 лістапада ў Браслаўскім цэнтры дзіцячай творчасці прайшоў шосты раённы краязнаўчы злёт, у якім удзельнічалі прадстаўнікі больш 20-ці школ. Гэта школьнікі і настаўнікі, якія праводзілі краязнаўчыя даследванні па загадзя абраных напрамках. Паседжанні адбываліся на дзвюх секцыях: Летапісанне родных мясцін і Патрыёты Бацькаўшчыны. Выступаючыя ў сціплай форме прадстаўлялі сваю працу, дзяліліся досведам . Вынікі ацэньвала журы, у склад якога ўваходзілі супрацоўнікі Браслаўскага музейнага аб'яднання. Лепшымі былі прызнаны працы краязнаўцаў Купчэльскай і Барунскай школ (летапісы школ), Відзаўскай школы (гісторыя другой сусветнай вайны ў наваколлі мястэчка Відзы), Оплінскай школы (відэафільм пра старавераў вёскі Кірыліна).

*Шуфляда*

*На замове Браслаўскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і ахове навакольнага асяроддзя музей падрыхтаваў невялікую кніжку "Браслаўшчына: прырода і людзі", у якой разглядаюцца гістарычныя аспекты адносін чалавека і прыроды на прыкладзе нашага рэгіёна. Праца павінна была пабачыць свет у сярэдзіне бягучага года. Аднак з прычыны фінансавых цяжкасцей выданне прыйшлося адкласці на больш позні тэрмін. Прапануем увазе чытача адзін з раздзелаў кніжкі: "Прырода супраць чалавека". У ім сабраны сведчанні аб неспрыяльных для чалавека праявах прыроды, зафіксаваных у гістарычных крыніцах.*

# ПРЫРОДА СУПРАЦЬ ЧАЛАВЕКА

У свядомасці кожнага чалавека ўжываюцца два асноўныя пачуцці да прыроды. З аднаго боку – пачуццё ўдзячнасці за тыя дарункі і ласкі, якія дзесяткі пакаленняў людзей бяруць ад прыроды, з яе невычэрпных багаццяў. З другога боку – пачуццё страху і бездапаможнасці перад прыроднай стыхіяй, рознымі прыроднымі з'явамі, якія мацней за чалавека. З развіццём чалавечай цывілізацыі абодва гэтыя пачуцці слабеюць. Мы менш звяртаем увагу на тое, што існуем дзякуючы прыродзе і ўсё больш верым у веліч і парамоннасць чалавечага розуму. Аднак мы ўсяго толькі часцінка прыроды і ніколі не след забываць яе ўрокі.

Браслаўшчына – рэгіён з мяккім кліматам, далёкі ад небяспечных сейсмічных зон, ад прыбярэжных тэрыторый з іх разбуральнымі тайфунамі. Тым не менш і ў нас адбываюцца прыродныя катаклізмы, якія часам выклікаюць непрадказальныя наступствы.

У гістарычным архіве Літвы зберагаецца журнал школьнага жыцця і гарадскіх падзей, які вялі ў пачатку XIX ст. навучэнцы Відзскай гімназіі. У 1804 г. адзін са школьных інспектараў з Вільні, праглядаючы журнал, прадпісаў надалей запісваць у ім надзвычайныя прыродныя з'явы. Дзякуючы гэтаму, мы можам скласці ўяўленне пра некаторыя з іх:

*24 мая 1808 г. ... у 4 гадзіны ўзнялася бура, ... град, у некаторых месцах знесены дахі і разбураны дамы.*

*31 мая 1810 г. Пасля цудоўнага надвор'я а 4-й гадзіне дня раптоўна ўзнялася бура, потым прайшоў праліўны дождж, нарэшце выпаў такі густы град, што за хвіліну пакрыў усю зямлю. Градзіны дасягалі буйных памераў, пры падзенні іх моц была незвычайнай: нават у цвёрдай глебе заставаліся выбаіны. Пашкоджана шмат хат, вокнаў, дахі знесены.*

*1811 г. З надыходам вясны і на працягу ўсяго лета былі надзвычай частыя пажары, увесь час не было дажджу. З гэтай прычыны самыя ўрадлівыя землі, нават найбольш дагледжаныя, ледзьве вярнулі насенне, а на іншых усё загінула.*

*21 ліпеня 1828 г. У Браслаўскім павеце 19, 20 і 21 ліпеня на працягу трох дзён ішоў заліўны дождж. Усе яравыя пасевы, у асаблівасці авёс, былі прыбіты да зямлі. З найлепшага зерня не тое што колас, а нават салома загінула... Небасхіл увесь быў зацягнуты хмарамі і перад жыхарамі прадстала сумнае відовішча... Сенажаці не толькі ў нізінах, але і ў больш высокіх месцах аказаліся пад вадой.., грэблі, масты, млыны разбураны і знесены патокам... Гэта здарэнне выракае многіх*

# ВЕСТКІ

4 снежня раённая газета "Браслаўская звязда" упершыню выйшла ў новым афармленні. Побач з назвай выдання пачэснае месца заняў герб Браслава "Вока Божага Наканавання", нададзены гораду ў чэрвені 1792 г. Нядаўна герб атрымаў статус афіцыйнага сімвала Браслава і Браслаўскага раёна.



Браслаўскі цэнтр дзіцячай творчасці выдаў зборнік літаратурных работ, прысвечаных роднаму краю, – "Вітаю цябе, Браслаўшчына". У зборнік увайшлі лепшыя творы: вершы, сачыненні, лірычныя замалёўкі, казкі, прысвечаныя прыгажосці Браслаўскай зямлі.

*жыхароў на галечу і пагібель.*

Цікава адзначыць, што праз 100 гадоў, у 1928 г. зноў прайшлі моцныя дажджы, якія выклікалі небывалы голад. Цяжка ўявіць, але ў гэтым годзе 80% дзён былі дажджлівымі. Увесну шмат якія гаспадары не змаглі засеяць свае ўчасткі зерневымі. Нават той, хто здолеў адсеяцца, усходаў не дачакаўся. Сенажаці ўсё лета прастаялі ў вадзе. Сяляне спрабавалі касіць траву, стоячы па калена ў вадзе, але сена хутка псавалася і было прыдатна толькі на подсцілку. Жывёла засталася без зімовых кармоў. У верасні дождж ліў не перастаючы два тыдні, а потым 48 гадзін доўжыўся лівень з ураганным ветрам. Азёры, рэкі выйшлі з берагоў. Вуліца Пілсудскага (сучасная Ленінская) у Браславе была цалкам заліта вадой. Напрыканцы верасня рэзка пахаладала, мароз даходзіў да 2 градусаў. 20 кастрычніка на палетках ужо ляжаў снег. Ураджай канчаткова быў знішчаны. Увесну 1929 г. у сялян скончыліся ўсе запасы і пачаўся голад. Ён ахапіў значную частку Віленшчыны, але найбольш пацярпелі Браслаўскі і Дзісенскі паветы. У сакавіку адна з віленскіх газет пісала: *"У Друі становішча настолькі катастрафічнае, што ўлады ўстанавілі там кухню, якая бясплатна выдае абеды."* Для таго, каб пракарміць жывёлу, вяскоўцы зрывалі са стрэх салому. Сітуацыя пагаршалася з кожным днём. У красавіку быў утвораны нацыянальны камітэт дапамогі ахвярам голаду. Грошы для пацярпелых збіралі не толькі ў Польшчы, але і за мяжой. Голад адступіў толькі ўвосені 1929 г., але яго наступствы адгукваліся і ў 1930 г. У 1934 г. зноў было шмат дажджоў, зноў пачаўся голад, але ў значна меншых маштабах.

У зімовы час шмат клопатаў людзям дастаўлялі снежныя завеі. Вёскі заносіла снегам, сумёты перакрывалі рух на дарогах. У 1929 г. мацнейшыя снежныя буры лютавалі пад канец зімы па ўсёй Віленшчыне. На Браслаўшчыне пазамятала ўсе важнейшыя гасцінцы, а вузкакалейка Друя-Браслаў-Дукшты не працавала некалькі тыдняў. У 1932 г. над Браслаўшчынай пранеслася снежная бура, якая знесла стрэхі ў 17 хатах, абарвала электрычныя і тэлефонныя лініі, паваліла шмат дрэў, зноў надоўга спыніла рух на чыгунцы.



Ледзяныя таросы на беразе воз.Дрывяты. 1929 г.

Пасля снежных зім вялікія клопаты дастаўлялі паводкі на рэках. Часам яны набывалі катастрафічны характар, бо на рацэ Заходняя Дзвіна ўздым вады дасягаў 13 м, а на рацэ Дзісна – 8 м. Максімальны пад'ём у гэтых рэках быў зафіксаваны ўвесну 1931 г. Вада цалкам затапіла гарады Дзісну і Друю, дзесяткі вёсак у наваколлі, пад вадой апынулася Казяншчына. 30 красавіка 1930 г. віленская газета "Слова" пісала: *"Большая частка горада Друі знаходзіцца пад вадой; 264 дамы аказаліся цалкам затопленымі, вывезена 1657 чалавек. У асноўным пацярпелі самыя бедныя жыхары, дамы якіх знаходзіліся каля самай ракі. Вада заліла 2 цэрквы, шэраг будынкаў чыгуначнай станцыі, аддзяленне паліцыі, гміннае праўленне, паштовую кантору, электрастанцыю, пагранзаставу і інш... Акрамя Друі вельмі пацярпела тэрыторыя Відзскай гміны і мястэчка Казяны, дзе большасць сяліб стаіць пад вадой... У павеце 800 сем'яў патрабуюць тэрміновай падтрымкі."* Моцная паводка была на Браслаўшчыне і ў 1956 г., калі Заходняя Дзвіна зноў затапіла значную частку Друі і навакольныя вёскі.

У параўнанні з рэкамі азёры не прыносілі столькі клопатаў. Ваганні ўзроўню вады ў іх звычайна невялікія. Часцей за ўсё падтапліваліся сенажаці і пашы. Нават у Браславе дамы і гаспадарчыя пабудовы цярпелі ад вады вельмі рэдка. Аб адным з такіх выпадкаў у пач.XX ст. захавалася архіўнае сведчанне: *"Вада так паднялася, што дайшла да паштовай дарогі ў падэшвы гары з яўрэйскімі могілкамі. Дарога часткова была заліта. Жыхары м.Браслава засведчылі, што ў выніку паводкі пад вадой апынулася паласа агародаў шырынёй 50-60 сажняў (сажань - 2,134 м), даўжынёй да 4 вёрст (вярста - 1052 м), прычым вада стала даходзіць да хлявоў і хат, некаторыя пабудовы стаялі ў вадзе."*



Вёска Бучаны на Казяншчыне залітая Дзісной. 1931 г.

У 1929 г. Браслаў сутыкнуўся з вельмі моцным націскам азёрнага льду. У тым годзе таўшчыня лёду даходзіла да 50 см і ён таяў даволі марудна, прычым як заўсёды з берагоў. Неўзабаве на азёрных хвалях гайдалася велізарная – плошчай звыш 30 км$^2$ – крыга. У канцы красавіка некалькі дзён запар дзьмуў моцны паўднёвы вецер. Ён пагнаў ледзяную пліту ў бок Браслава. Рух лёду быў павольны, амаль непрыкметны, аднак меў страшэнную сілу. Былы староста Браслаўскага павета З.Янушкевіч успамінае: *"Капітальны*

*драўляны будынак пажарнай варты з залай і сцэнаю быў зняты з падмурка і перанесены на 10 метраў. Зразумела, што коміны, печы, дзверы і вокны былі знішчаны. Лёд знёс яшчэ некалькі дамоў і каля дзесяці гаспадарчых пабудоў... Гасцінец Браслаў - Опса ля Браслава... быў поўнасцю знесены. Тут утварылася звалка ледзяных глыб вышынёй 6-8 метраў. Сасновы лес за в.Заборныя Гумны быў вырваны з каранямі і перанесены на 10-30 метраў углыб ад берага. Ніколі не забуду відовішча: старыя, магутныя сосны, выдраныя з каранямі, якія перасоўваліся часам стоячы, і знявечаная зямля вакол."*

Шмат непрыемнасцей прыносілі людзям моцныя навальніцы, ураганныя ветры, смерчы, град. У XIX ст. нават адзначалі, што частыя навальніцы з градам з'яўляюцца асаблівасцю клімата Браслаўшчыны і звязвалі гэта з вялікай колькасцю азёр. За перыяд 1843 - 1852 гг., калі ў Ковенскай губерні праводзіліся мэтэаназіранні, па колькасці навальніц з градам Браслаўшчына заняла другое месца ў губерні. Моцны град мог прычыніць шмат шкоды. Вось, напрыклад, некалькі паведамленняў на гэту тэму: *"24 ліпеня 1895 г. у Відзскай воласці градам пабіта зерневых на 250 дзесяцінах, страты склалі 10590 руб., 26 ліпеня 1895 г. градам у Дрысвяцкай воласці знішчана пасеваў на 3600 руб."*. Доўгі час у жыхароў рэгіёна жыла памяць пра незвычайную па моцы навальніцу 30 чэрвеня 1812 г., падчас праходжання праз Браслаўшчыну напалеонаўскіх войск, навальніцу з шалёным ураганам 4 чэрвеня 1855 г., ад якой пацярпела шмат будынкаў. Дарэчы, памятнай для сялян была зіма 1838 г., калі пры моцных маразах не выпала ніводнай сняжынкі. Мароз настолькі скаваў зямлю, што дзе-нідзе яна не адтаяла нават у чэрвені. Частай з'явай у вёсках і мястэчках былі пажары ад удару маланкі. Ахвярамі маланкі ("перуна") станавіліся людзі, хатнія жывёлы. Пра такія здарэнні ёсць шмат сведчанняў у архіўных дакументах, у старых газетах. Асабліва баяліся шаравой маланкі, прырода якой была яшчэ больш незразумелай для простых людзей.

Сюрпрызаў можна было чакаць і збоку жывёльнага свету. Вядомы мемуарыст К.Завіша пакінуў нам звесткі аб двух навалах саранчы, якія зачапілі і Браслаўшчыну: *" У 1690 годзе ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім з'явілася саранча, якая пакрыла ўсе палі, шкодзіла жытнім пасевам, лугам. Нават свойскія свінні дзічэлі ў лясах, не ішлі да хат, не давалі зачыніць сябе ў хлявах... У 1711 годзе зноў наляцела саранча, было яе на гэты раз нязмерна больш і была яна больш чорная і вялікая. Дзе яна пралятала і асядала, нават саломы не заставалася. Ляцела саранча нібыта хмара, нават неба не было відаць..."*.

У гадзіны войнаў і ліхалеццяў па лясах у вялікай колькасці разводзіліся ваўкі. Ваўчыныя зграі рабілі напады на свойскую жывёлу сялян. Былі ахвяры і сярод людзей. Пасля першай сусветнай вайны зафіксавана некалькі такіх здарэнняў. У сакавіку 1923 г. ваўкі загрызлі Юрыя Балочку. У другім выпадку воўк напаў на селяніна, які працаваў на ўласным падворку.

Да 30-х гадоў у наваколлі Браслава размяшчалася некалькі соцень гектараў лятучых пяскоў, на якіх амаль нічога не расло. Пры моцных ветрах гэтыя пяскі маглі перасоўвацца. Самыя дробныя пясчынкі хмарамі праносіліся па мястэчку. Жыхары Браслава, як адзначалі ў XIX - пач.XX стст., даволі часта пакутвалі ад розных хвароб вачэй. Гэта непрыемная з'ява знікла, калі па ініцыятыве ўлад на пясках былі пасаджаны сасновыя лясы, якія сёння з'яўляюцца неад'емнай часткай краявідаў Браслава.

Разбуральная моц прыродных катаклізмаў ужо не падаецца нам такой страшнай, як жыхарам мінулых стагоддзяў. Аднак і жыхары XXI стагоддзя не застрахаваны ад "сюрпрызаў" прыроды.

**Кастусь Шыдлоўскі, навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея**

# Да 190-годдзя вайны 1812 года

*Пра мясцовыя падзеі вайны Расійскай імперыі з Напалеонам даволі падрабязна распавядаецца ў кнізе "Памяць". Найбольш значны баявы эпізод вайны на Браслаўшчыне - гэта сражэнне французскай і расійскай конніц у ваколіцах Друі 3(15) ліпеня 1812 г. Падаем некаторыя матэрыялы, якія асвятляюць падрабязнасці Друйскай сутычкі, што не былі ўключаны ў кнігу "Памяць".*

* * *



**Друя**, мястэчка Віленскай губерніі, на левым беразе Заходняй Дзвіны, у 35 вярстах ніжэй Дрысы. Кавалерыйскі бой 3 ліпеня 1812 г. Пасля астаўлення 2 ліпеня Дрысенскага ўмацаванага лагера Барклай дэ Толі вылучыў са складу арміі першы корпус Вітгенштэйна, які, застаючыся ля Дрысы, павінен быў прыкрываць напрамак на Санкт-Пецярбург. У ноч на 3 ліпеня Вітгенштэйн загадаў авангарду генерала Кульнева навясці на Дзвіне мост насупраць горада і правясці ўзмоцненую рэкагнасціроўку на левы бераг у напрамку на Друю. Пераправіўшыся у 5 гадзін раніцы, Кульнеў пакінуў пяхоту для прыкрыцця маста, а конніцу ў складзе казацкага і Гродзенскага гусарскага (цяпер Клясціцкага) палкоў, накіраваў на с.Чэрнева. Непадалёку ад Друі казакі і гусары раптоўна атакавалі два авангардных палкі дывізіі Себасцьяні, збілі іх і захапілі ў палон брыгаднага генерала С-Жэнье, трох афіцэраў і 140 ніжэйшых чыноў. Дзеянні конніцы былі настолькі рашучымі і энергічнымі, што Себасцьяні, які меў 2 брыгады (1800 коней) вызначыў нашы сілы ў 4 тыс. коней і адступіў вёрст на 10 да с.Чэрнева. Страты нашы – 75 чалавек. Каля 12 гадзін дня Кульнеў пераправіўся назад, пакінуўшы за Дзвіной казацкі полк. Гэтая ўдалецкая справа мела той важны вынік, што Напалеон, які прыняў авангард Кульнева за авангард І-й арміі, прыпыніў рух да с. Глыбокае. Граф Вітгенштэйн і пасля справы каля Друі часта пасылаў лёгкія атрады на левы бераг Дзвіны, якія нападалі на абозы і асобныя каманды,

непакоячы тылы непрыяцеля і гэтым наносячы яму значную шкоду. Даведаўшыся ў палове ліпеня аб наступленні французаў на Себеж, Вітгенштэйн з галоўнымі сіламі перакрыў ім шлях, а Кульневу загадаў перапраўіцца ля Друі на левы бераг Дзвіны. І на гэты раз Кульнеў паспяхова выканаў даручэнне, разагнаў некалькі каманд, узяў у палон больш за 200 чалавек і амаль без страт вярнуўся за Дзвіну...

*Друкуецца па кн.: Военная энциклопедия. Петербург, 1912, т.IX, с. 230.*
*Пераклад з рускай мовы.*

* * *

З ЛІСТА ГЕНЕРАЛА Я.КУЛЬНЕВА ДА АД'ЮТАНТА ГАЛОЎНАКАМАНДУЮЧАГА БАРКЛАЯ дэ ТОЛІ А.ЗАКРЭЎСКАГА, ЯКІ БЫЎ НАПІСАНЫ 28 ЧЭРВЕНЯ (10 ЛІПЕНЯ) 1812 Г. У В. ЧЭРНЕВА, НАПЯРЭДАДНІ ДРУЙСКАГА БОЮ

...Скажыце, ці хутка пачнем гэтых праклятых французішкаў папіраць, бо пры адступленні нашым кроў салдацкая застыла. Я вам гэта шчыра кажу, як сябру, і калі, нарэшце, дойдзе да агульнай звалкі, то нагадайце міністру, каб на той выпадак знялі б усе ранцы і шынялі. Тады можна будзе палічыць, нашу армію на 50000 мацней, бо пры такім цяжары (нават і) без непрыяцеля палова арміі (...) пераможана, а тым больш пры цяперашняй спякоце. Зараз справа не ідзе аб ранцах, але аб цэласнасці і гонары ўсёй дзяржавы. Я аб гэтым нагадваю, як шчыры сын айчыны...

*Друкуецца па кнізе: "К чести Росии". Из частной переписки 1812 года. М., 1988, с. 45. Пераклад з рускай мовы.*



**Генерал Я.Кульнеў**

РАПАРТ ГЕНЕРАЛ-МАЁРА Я.КУЛЬНЕВА П.ВІТГЕНШТЭЙНУ

...Пры адступленні з левага берага Дзвіны ў перастрэлцы з непрыяцелем паранены Гродзенскага гусарскага палка ўнцэр-афіцэр Адзігаў, забіта: 2 гусары, 1 ураднік, 5 ці 6 казакаў, паранена: 1 харунжы, 4 казакі, коней у Гродзенскім гусарскім палку забіта і, цяжка паранена 3, а казацкіх – забіта 17, паранена 4. Непрыяцель страціў непараўнальна больш, аб чым Вашаму Сіяцельству данесці гонар маю.

Генерал-маёр Кульнеў
Ліпеня 1 дня 1812 г.

*Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў.*
*Ф. ВУА, спр.3514, стар. 116.*
*Пераклад з рускай мовы.*

* * *

ПЕРШАГА АСОБНАГА КОРПУСА КАМАНДЗІРУ ПАНУ ГЕНЕРАЛ-ЛЕЙТЭНАНТУ І КАВАЛЕРУ ГРАФУ ВІТГЕНШТЭЙНУ АВАНГАРДНАГА КАМАНДЗІРА ГЕНЕРАЛ-МАЁРА КУЛЬНЕВА
РАПАРТ

Дасланыя праследаваць непрыяцеля партыі вярнуліся ад Чэрнова. З дове раным мне авангардам перайшоў на правы бераг Дзвіны, пакінуўшы на левым частку пяхоты і конніцы. Паражэнне было поўнае двум непрыяцельскім палкам – 11 конна-егерскаму і 10 польскаму гусарскаму, звыш узятых у палон, якім дадаю пры гэтым ведамасць, уся дарога ўсыпана трупамі мёртвых цел да самага Чэрнова. Сярод узятых у палон 18 чалавек памерла ад ран у Друі, шматлікія фурманкі пакінуты на дарозе. Доўгам абавязаны Вашаму Сіяцельству рэкамендаваць найбольш храбрага падпалкоўніка Рэдзігера, які камандаваў давераным мне Гродзенскім гусарскім палком, якому я абавязаны атрыманай гэтай слаўнай і канчатковай перамогай і, калі будзе начальства браць на ўвагу, то палічу вялізнай для мяне ўдзячнасцю, узнагародзіць замест мяне гэтага дастойнага і храбрага падпалкоўніка Рэдзігера, без якога не здолеў бы атрымаць поўнай гэтай перамогі. Аб іншых, якія вызначыліся, з дазволу Вашага Сіяцельства, дастаўлю спіс. Аб колькасці страт нашых яшчэ не магу сабраць звестак, але ў палон ніхто не трапіў.

Ліпень 4 дня, 1812 г. Друя.
Генерал-маёр Кульнеў.

*Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў*
*Ф. ВУА, спр.3514, стар. 13-14, адв.*
*Пераклад з рускай мовы.*

СА СПІСА АФІЦЭРАЎ, ЯКІЯ НАЙБОЛЬШ ВЫЗНАЧЫЛІСЯ Ў СРАЖЭННІ З (15) ЛІПЕНЯ 1812 Г.

...

Падпалкоўнік Сілін

У час сражэння 3 ліпеня камандуючы другім батальёнам Гродзенскага гусарскага палка, прыкрываў баявыя дзеянні першага батальёна і тым садзейнічаў атацы на непрыяцеля, які вымушаны быў з немалымі стратамі людзей уступіць пазіцыі і шукаць выратавання ў лясах і ў гэтым дзеянні падпалкоўнік Сілін атрымаў кантузію.

Ротмістр Гротус

У час атакі, калі непрыяцель быў апракінуты, адкамандзіраваны ротмістр Гротус імкліва ўдарыў у праследаванне за оным. Адрэзаў левы фланг непрыяцельскага авангарда, узяў эскадронам у палон брыгаднага генерала Сен-Жэні, да 50 галоў ніжніх чыноў і мноства палажыў на месцы, пры гэтым выпадку як і ў час атакі, паказаў ён неўстрашымую сваю храбрасць і шмат у чым садзейнічаў у перамозе над ворагам.

...

Карнет Глебаў

Пры атацы эскадрона ротмістра Гротуса з адменнай храбрасцю кінуўся з некалькімі чалавекамі наперад і выбіў брыгаднага генерала дэ Сен-Жэні з каня і ў той жа момант, нягледзячы на абкружаючага непрыяцеля, вывеў яго за фронт, даў яму свайго каня і даставіў да мяне.

Палкоўнік Рэдзігер.

*Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў.*
*Ф. ВУА, спр.3514, стар.22-23.*
*Пераклад з рускай мовы.*

ВЕДАМАСЦЬ
ФРАНЦУЗСКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ, УЗЯТЫХ У СРАЖЭННІ ЛІПЕНЯ 3 ДНЯ АВАНГАРДАМ 1-га АСОБНАГА КОРПУСА

| | | |
|---|---|---|
| Брыгадны камандзір генерал Сен-Жэні | 1 | |
| 11-га егерскага палка: | | |
| Капітан Маттэ | 1 | |
| Падпаручнік Талле | 1 | |
| 10-га гусарскага палка: | | |
| Паручнік Лохі | 1 | Усе адпраўлены ў галоўную кватэру 1-й арміі |
| Ніжнія чыны 11 егерскага палка | | |
| здаровых | 34 | Адпраўлены ў галоўную кватэру ў г.Пскове |
| параненых | 63 | |
| 10 гусарскага палка | | |
| здаровых | 24 | |
| параненых | 19 | |
| 4-га ўланскага палка | | |
| здаровы ўлан | 1 | |
| Усяго: | | |
| афіцэраў | 4 | |
| ніжніх чыноў | 141 | |

*Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў.*
*Ф., ВУА, спр. 3490, стар. 6-7.*
*Пераклад з рускай мовы.*

*Славутыя землякі*

# Андрэй Вангін



*Алена Казлоўская-Глагоўская з Гданьска, якая займаецца зборам матэрыялаў аб беларускіх дзеячах міжваеннага часу, даслала два артыкулы надрукаваныя ў выданні "Czasopis" і прысвечаныя Андрэю Вангіну, нашаму земляку. Андрэя Вангіна называлі адным з найбольш таленавітых актораў знакамітага беларускага тэатра Уладзіслава Галубка (арганізаваны ў 1920 г. пад назвай Трупа беларускіх артыстаў пад загадам Галубка пры Беларускім рабочым клубе, з 1932 г. называўся Беларускі трэці дзяржаўны тэатр (БДТ-3). Гэты тэатр доўгі час быў вандроўным, са сваімі спектаклямі пабываў у розных куточках Беларусі і быў вельмі папулярны ў народзе. Тэатр меў яскрава выражаны нацыянальны характар, што стала падставай для абвінавачання яго кіраўніцтва і вядучых артыстаў ў нацыяналізме. У 1937 г. У.Галубок быў рэпрэсаваны, тэатр расфарміраваны. Лёс артыстаў склаўся па-рознаму. Андрэй Вангін выехаў у Польшчу, дзе жыў да смерці ў 1977 г. Біяграфічных звестак пра А.Вангіна вядома няшмат. Нарадзіўся 30 лістапада 1895 г. у Відзах у сям'і Аляксандра і Аляксандры Вангіных. У 1920 г. выпадкова трапіў у знакамітую "Беларускую Хатку" (беларускі клуб, створаны ў 1916 г.). У "Беларускай Хатцы" ладзіліся вечарынкі з удзелам вядомых беларускіх дзеячоў, Выступалі творчыя калектывы. Захоплены энтузіазмам маладых артыстаў, сам стаў спрабаваць свае сілы. У трупе Галубка спачатку выконваў эпізадычныя ролі, потым больш значныя. Пасля разгону тэатра і сканчэння другой сусветнай вайны апынуўся ў Польшчы. З 1945 г. жыў у Гданьску. Удзельнічаў у любіцельскіх спектаклях Расійскага культурнага таварыства ў Гданьску (беларуская арганізацыя паўстала ў гэтым горадзе толькі ў 1967 г.), пад псеўданімам А.Блажэвіч. З 1967-га па 1977-ы гады з'яўляўся сябрам Гданьскага аддзялення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У Гданьску жыў самотна. Яго жонка Ганна Габрыловіч памерла хутчэй за ўсё перад 1945 г., сын Казімір згубіўся ў віхуры другой сусветнай. З 1969 г. па 1977 г. А.Вангін жыў у Доме пенсіянера ў Рэдлове, пры гэтым часта наведваў беларускі клуб у Гданьску. У 1977 г. стан здароўя Вангіна пагоршыўся і яго перавялі ў іншы дом — у Гневе. Неўзабаве аднаго з "галубкоўцаў" не стала. Пахаваны на Гнеўскіх могілках. Беларусы ўзбярэжжа паклапаціліся аб тым каб на магіле Андрэя Вангіна паўстаў помнік, які праўда яшчэ не дакончаны. На фотаздымку, які даслала сп.Алена бачым шэрага колеру паліраваны гранітны камень, на якім надпіс па-польску:"Андрэй Вангін. Блажэвіч. 1895-1977. Беларускі актор. Ад беларусаў Узбярэжжа".*



* * *

*Сябрам Андрэя Вангіна па тэатру быў Міхал Грынблат, у далейшым вядомы беларускі этнограф, фалькларыст, гісторык. Алена Казлоўская-Глагоўская выявіла ў архіве навукоўцы лісты Вангіна да сябра ў Мінск. Гэтай перапісцы прысвечаны цэлы артыкул даследчыцы. Падаем невялікі фрагмент з яго:*

* * *

"У 1966 г. споўнілася мара Андрэя Вангіна – паехаў у Мінск. Аб яго спатканні з Міхалам Грынблатам нават паведаміла на першай старонцы газета "Літаратура і мастацтва" (№27 ад 232.09. 1966 г.), змяшчаючы фотаздымак "двух з трупы Галубка". Аўтар артыкула М.Гіль выкарыстаў успаміны А.Вангіна ў сваёй публікацыі "Двое з трупы Галубка":

*"Тыя гады назаўсёды застануцца ў маёй памяці. Застануцца не толькі таму, што гэта былі гады маёй маладосці, а перш за ўсё таму, што якраз тады лёс звёў мяне з чалавекам шчырага таленту, з чалавекам, які жыў любоўю да роднага мастацтва – з Уладзіславам Іосіфічам Галубком. Звёў, можна сказаць, выпадкова. Працаваў я ў Піцеры. Пасля пайшоў у Чырвоную Армію. На польскім фронце цяжка паранілі. Пасля выздараўлення прыехаў у Мінск. І тут мне давялося трапіць аднойчы ў "Беларускую хатку". Я быў зачараваны беларускімі песнямі і пастаноўкамі, якія ладзіліся тут, захоплены энтузіязмам людзей, з якімі пазнаёміўся. Захацелася самому паспрабаваць свае сілы. Уладзіслаў Іосіфавіч сустрэў мяне вельмі ласкава, а калі выслухаў просьбу, яшчэ больш пацяплеў. Так вырашыўся мой лёс на доўгія-доўгія гады. Мне пачалі даваць выконваць тыя ці іншыя ролі: спачатку невялічкія, пасля больш значныя. Калектыў наш быў напачатку чалавек можа з дзесяці, але дружны. Энтузіязм быў незвычайны. Цяпер нават цяжка ўявіць, у якіх умовах нам даводзілася працаваць, асабліва ў першыя гады. Усё, літаральна ўсё даводзілася рабіць сваімі рукамі. Артыстам трэба было быць і дэкаратарамі, і бутафорамі, і грымёрамі, і касірамі і г.д. (...) Куды б мы не прыехалі, нас сустракалі з вялікай радасцю. (...) усюды тэатр называлі ласкава "Галубок". Так і гаварылі: "Галубок прыехаў". Асаблівым поспехам карысталіся спектаклі па п'есах самаго Галубка: "Суд", "Пісаравы імяніны", "Падкідыш". Зусім іншымі сталі ўмовы працы, калі тэатр стаў дзяржаўным і пераехаў на стацыянарнае месца ў Гомель. Спектаклі, якія ставілі ў Гомелі, былі больш складанымі, больш сур'ёзнымі, сталымі, больш прафесіянальнымі. (...) Цяпер успамінаючы той час, радуе іншае. Мы з тэатрам аб'ездзілі ледзь не ўсю Беларусь, часта пападалі туды, дзе ўвогуле людзі ўпершыню чулі, што гэта такое – тэатр, ды пры тым беларускі тэатр."*

## *Славутыя землякі*

# Юзаф Аляксандровіч

*Нарадзіўся 6 студзеня 1793 г. Шляхціц з в.Заснуддзе Віленскага ваяводства (сучасная в.Заснуддзе Браслаўскага р-на - рэд.). У 1812 г. добраахвотна ўступіў у 21-ы пяхотны полк княства Варшаўскага (пад канец гэтага года атрымаў чын паручніка). Удзельнік кампаніі 1812 і 1813 гадоў на баку войск Напалеона. Дзесяць месяцаў прабыў у абложаным Модліне. У 1815 г. перавёўся ў 3-ці полк пешых стралкоў. 14 верасня 1817 г. згадваецца як ад'ютант палка пры генерале Ціхоцкім. У 1820 г. пайшоў у адстаўку. Зноў у войску пасля пачатку паўстання 1830 г. Меў чын маёра, атрымаў пасаду ў штабе. Пасля падаўлення паўстання ў эміграцыі. Быў у ліку арганізатараў эмігранцкіх аб'яднанняў у Авіньёне, Безансоне, Шато-Руа (Францыя). З'яўляўся ўплывовай постаццю ў кіраўнічых органах польскай эміграцыі ў Францыі. Меў дачыненне да адхілення нацыянальнага камітэта пад кіраўніцтвам Лелевеля і да арганізацыі новага камітэту пад кіраўніцтвам генерала Дверніцкага. Апошнія гады жыў у Парыжы. Памёр у доме польскіх ветэранаў Св.Казіміра 16 чэрвеня 1874 г.*

*(Паводле Польскага слоўніка біяграфічнага)*

## *Выставы*

# ВІКІНГІ НА УСХОДЗЕ

Такую назву мае выстава, арганізаваная Нацыянальным музеем гісторыі і культуры Беларусі ў супрацоўніцтве з Дзяржаўным гістарычным музеем Швецыі і Шведскім інстытутам. Яе урачыстае адкрыццё адбылося 18 кастрычніка 2002 г. З беларускага боку ў выставе ўдзельнічаюць 14 музеяў, у тым ліку Браслаўскае музейнае аб'яднанне.

Нагадаем, што вікінгі – гэта жыхары Скандынавіі. Усходнія славяне называлі іх варагамі, а ў Заходняй Еўропе ўжывалася яшчэ адна назва – нарманы (паўночныя людзі). Вікінгі былі надзвычай ваяўнічымі людзьмі, іх дружыны рабілі спусташальныя набегі на землі блізкіх і не толькі блізкіх дзяржаў. Актыўную экспансію скандынаваў называюць эпохай вікінгаў. У сярэдзіне IX ст. адна з хваляў эпохі вікінгаў дакацілася і да Беларусі.

Сляды вікінгаў, уплыў іх культуры зафіксаваны ў розных рэгіёнах Беларусі, аднак Браслаўскае Паазер'е займае асаблівае месца. Браслаўшчына – адзіны рэгіён Беларусі, дзе знойдзены шматлікія матэрыялы са старажытнаскандынаўскімі рунічнымі надпісамі ( гл."Павет" №5, 2002 г.). Скандынаўскія, варажскія матэрыялы тут фіксуюцца на многіх археалагічных помніках. Ёсць нават меркаванне, што Браслаўшчына пэўны час была уладаннем варажскага князя Эймунда (гл."Павет" №1, 2002 г.)

Знаходкі з Браслаўскага Паазер'я займаюць на выставе значнае месца. Зразумела, што найбольшую цікавасць выклікаюць косткі з надпісамі імалюнкамі. Адна з перлін выставы – раўнаплечая фібула (гарадзішча Маскавічы) са збораў музейнага аб'яднання, аналагаў якой намя ва ўсёй Заходняй



Еўропе. Шведскія спецыялісты датавалі яе IX ст. Магчыма ў гэты час у Маскавічах з'явіліся першыя вікінгі. Браслаўскае Паазер'е таксама прадстаўлена рытуальным гаршчком з грыўняй на шыйцы (звычай вікінгаў) з могільніка Укля, скандынаўскай гіркай з гарадзішча Зазоны, ланцэтападобнымі наканечнікамі стрэлаў і праколкамі з зааморфнымі навершамі з гарадзішча Пруднікі, косткай з рунічным надпісам з гарадзішча Рацюнкі і іншымі экспанатамі.

Падбіралі экспанаты для выставы маладыя навукоўцы Сяргей Дзярновіч, Віталь Сідаровіч, Мікола Плавінскі. Дарэчы, усе яны ўдзельнікі экспедыцый на Браслаўшчыне, а Сяргей Дзярновіч з 2002 году даследуе гарадзішча Маскавічы. Зроблена велізарная праца, каб сабраць у Мінску такую ўнікальную калекцыю вікінгаўскіх матэрыялаў.

Шведы прывезлі ў Мінск надборку муляжоў камянёў з рунічнымі надпісамі і малюнкамі, якія па-майстэрску аздобілі ілюстрацыйным матэрыялам. Многія рунічныя камяні на тэрыторыі Скандынавіі адносяцца да твораў сярэднявечнага мастацтва. Спецыялісты не выключаюць што ў Беларусі могуць быць знойдзены камяні са сціплымі рунічнымі значкамі. Адзін з найбольш перспектыўных рэгіёнаў – наша Браслаўшчына.

Да выставы быў падрыхтаваны каталог.

## Думка ўдзельных

30 лістапада ў Цэнтры дзіцячай творчасці прайшоў раённы краязнаўчы злёт. У ім бралі ўдзел прадстаўнікі большасці школ Браслаўскага раёна. Восеньскія краязнаўчыя злёты сталі добрай традыцыяй, яны праводзяцца штогод як вынік працы вучняў па загадзя абраных напрамках. У гэтым годзе вызначаліся чатыры напрамкі: летапісанне родных мясцін, патрыёты Бацькаўшчыны, адраджэнне народных традыцый, прырода і экалогія краю. Сваімі развагамі аб асаблівасцях сённяшняга злёту дзеляцца сябры журы.

**Элеанора Зінкевіч**, *загадчыца Музея традыцыйнай культуры*. Сама ідэя правядзення такіх канферэнцый добрая, таму што на працягу года вядзецца пошуковая праца ў сваёй мясцовасці, пад час якой нярэдка адшукваецца цікавы матэрыял. Адзінае, на мой погляд, не зусім цікава адбываецца выніковае мерапрыемства. Нам усім неабходна прыдумаць займальнуюформу падвядзення вынікаў.

**Аляксандр Панцялейка**, *намеснік дырэктара музейнага аб'яднання*. Мне давялося прысутнічаць на аглядзе краязнаўчых прац на тэме "Патрыёты Бацькаўшчыны". Калі ўдумацца ў сэнс назвы намінацыі, то кірункаў для даследванняў бачыцца шмат. Значэнне слова "патрыятызм" вельмі шырокае і глыбокае. Аднак, пакуль спрацоўвае стэрэатып, закладзены ў 60-70-я гады XX ст., дзе "чырвонай ніткай" праходзіла тэма Вялікай Айчынай вайны. На мой погляд тэму 2-й сусветнай вайны школьніку сёння ўжо даследваць немагчыма. Час збору ўспамінаў прайшоў, вычарпаны іншыя кірункі, патрэбна недаступная вучню архіўная праца. Таму на змену ваеннай тэматыцы вельмі лагічна падыходзяць тэмы жыццяапісання нашых землякоў, якія ў свой час, у розных гістарычных варунках былі сапраўднымі патрыётамі Бацькаўшчыны.

Канешне, такія краязнаўчыя злёты патрэбныя, бо з'яўляюцца і сярод настаўнікаў і сярод вучняў апантаныя заўзятары гісторыі свай зямлі. А гэта трэба вітаць і ўсяляк падтрымліваць.

**Кастусь Шыдлоўскі**, *навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея*. У параўнанні з мінулымі гадамі злёт праходзіў з заўважна меншым уздымам. Узровень прадстаўленых на конкурс прац быў у цэлым ніжэйшым. Многія школы падрыхтавалі ці па сутнасці адпіскі, ці прадставілі працы, якія пабывалі ўжо на іншых конкурсах. Яркіх, запамінальных, арыгінальных прац было мала. Аднак яны былі. Парадавала праца невялічкай Барунскай школы, вучні якой пад кіраўніцтвам В.Буко змаглі стварыць грунтоўны летапіс школы.

Злёт яшчэ раз засведчыў, што калі ёсць зацікаўлены краязнаўствам настаўнік, вучні з задавальненнем уключаюцца ў працу. Дрысвяцкія краязнаўцы над кіраўніцтвам Э.Шавэлы прадставілі невялікую справаздачу аб даследваннях на разбураным гарадзішчы Чорная Гара, але колькі тут прачытваецца шчырай зацікаўленнасці. Калі на злётах будзе з'яўляцца хаця б адна-дзве яркія працы, правядзенне іх апраўдана.

*Старадаўняй*
*Літоўскай Пагоні*
*не разбіць,*
*не спыніць,*
*не стрымаць!!!*
*Максім Багдановіч*



## 705 гадоў гербу ПАГОНЯ

## Гартаючы старыя газеты

**Видзы.** *(От нашего корреспондента)*

По примеру прошлых лет в Видзах в течение трёх дней – 18,19 и 20 июля происходила ярмарка. Благодаря хорошей погоде ярмарка прошла оживленно и при большом стечении народа. Знаменательно то, что на первый же день ярмарки к вечеру ни в одной лавке нельзя было найти ни одной капли алкоголя: всё было выпито «до дна». Такого явления не могут отметить в прошлом старожилы. На второй день состоялась выставка крестьянских лошадей и рогатого скота. Хозяева лучших пород были награждены денежными наградами в размере 3-5 рублей и серебрянными медалями. 20 июля в православной церкви был храмовый праздник, на который пришли крестным ходом крестьяне соседних приходов со своими настоятелями.

*Северо-Западный телеграф (Ковно)*
*29 ліпеня*

**Видзы.** *(От нашего корреспондента)*

19 июля в Видзах состоялась обычная выставка крестьянского скота и лошадей. О предстоящей выставке крестьяне были оповешены волостным правлением. К назначенному времени на выставку было доставлено всего только 52 лошади и 10 коров. Но и этого незначительного числа экспонатов оказалось вполне достаточно, чтобы сделать безошибочное заключение о том, в каком незавидном положении находится у местных крестьян скотоводство и коневодство. Министерство земледелия ассигновало для раздачи экспонентам 40 руб., главное управление государственного коневодства прислало серебрянные и бронзовые медали, окрестные землевладельцы пожертвовали 70 руб. и кроме этого теленка, несколько штук породистых поросят, овечку, гнездо кур, несколько мешков штучной туки, плуг. Всё это было разделено на несколько категорий и после экспертизы распределено между экспонентами. Серебрянную медаль и 3 рубля получил крестьянин Михаил Пелоховский (житель д.Бучаны) за двухлетноего жеребца, бронзовую медаль и 3 рубля - крестьянин Александр Войчис (житель д.Домброшишки) тоже за двухлетнего жеребца. Остальные награды были разделены не столько ради достойного представления экспонентов, сколько для того, чтобы заинтересовать крестьян выставкой и для поощрения их в деле улучшения скотоводства и коневодства. Правда в числе привезенных на выставку лошадей были и достойные внимания экземпляры, но оказалось что эти лошади, доставленные из Виленской губ. должны быть оставлены вне конкурса. В этом году по числу приведенных для продажи лошадей, ярмарку следует признать довольно удачной. Несколько табунов было пригнано из центральной Росии и из южных губерний. Солидные купцы почти отсутствовали. Деревянных изделий на ярмарке было мало. Вообще, видзовские старожилы замечают, что ильинские ярмарки, прежде славившиеся величиной своих оборотов, многолюдием и громадным числом пригоняемых табунов, для помещения которых в городе строились специальные конюшни, теперь с каждым годом падают.

*Северо-Западный телеграф (Ковно)*
*31 ліпеня*

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./ факс 21-4-28
E-mail: hkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» (Наваполацк) пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»